**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 52 (820) 24 снежня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

## Віншуем са святам Нараджэння Хрыстова!

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае


















Свята "Каляды ў Ліпніках", Пастаўскі раён. *Фота kazki.by*

## Браслаўскі раён

# Не трэба баяцца пакаяння

■ Станіслаў Раманчук.

**У гэтым годзе для беларускіх каталікоў час падрыхтоўкі да свята Божага нараджэння стаў яшчэ больш светлым і радасным.**

Упершыню для айчынных вернікаў гэтай канфесіі па рашэнню Папы Рымскага Францішка аб'яўлены юбілейны Год міласэрнасці пачаўся з адкрыцця адразу 11 Святых брам у храмах Беларусі. Дагэтуль праходзячы па такой працэдуры атрымаць індульгенцыю (адпуст) – вызваленне ад кары за розныя грахі можна было толькі ў саборах Рыма. У Віцебскай дыяцэзіі на тэрыторыі вобласці, згодна з адпаведным дэкрэтам, хрысціяне змогуць спазнаць любоў Госпада ў двух месцах: у абласным цэнтры і ў Браславе. Сімвалічна, што такія Брамы міласэрнасці адкрыліся ў адзін дзень спачатку раніцай у віцебскім кафедральным касцёле Езуса Міласэрнага. А ўжо вечарам біскуп Віцебскі Алег Буткевіч быў на сваёй малой радзіме і ўзначаліў урачыстую працэсію ад сакрыстыі да галоўных дзвярэй мясцовага санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў. Уваход у храм быў прыгожа ўпрыгожаны кветкамі і вянком з эмблемай гэтай значнай падзеі хрысціянскага жыцця. Браслаўскі касцёл быў неўзабаве запоўнены вялікай колькасцю людзей, а само Богаслужэнне атрымалася асабліва велічным і хвалюючым. Біскуп у сваёй прамове звярнуў увагу вернікаў, што не трэба сароміцца пераżываць душэўныя хваляванні, знайсці кожнаму сілу прабачыць сваім блізкім і самому сабе. Мясцовы настаяцель храма ксёндз Станіслаў шчыра запрасіў вернікаў з розных куткоў дыяцэзіі прыязджаць у азёрны край. У Браславе храм не будзе зачыняцца і штодзень тут будуць рады бачыць не толькі арганізаваныя групы пілігрымаў, але і прыватных асоб, якія таксама пажадаюць перажыць хвалюючы момант пакаяння і еднасці з Богам, бо Год міласэрнасці прадоўжыцца да 20 лістапада 2016 года.

## Глыбоцкі раён

# Пабойся ты Бога

■ Кастусь Александровіч

**Калі на Віцебшчыне зрэдку бываюць яшчэ суткі без пажараў, то розныя крадзяжы маёмасці фіксуюцца рэгулярна, а цяпер і ў самых нечаканых месцах.**

У зводцы такіх вось крымінальных здарэнняў увагу ўсёй краіны прыцягнуў днямі велічны праваслаўны сабор Раства Прасвятой Багародзіцы ў Глыбокім. Тут у храме днём незнаёмая жанчына рашылася на агідны ўчынак і са скрыні для ахвяраванняў у святыні адкрыта скрала больш 7 млн. рублёў. Аднак гэта заўважыла мясцовая прыхаджанка, якая адначасова прадае царкоўныя тавары ў ларку. Прадавец храма не разгубілася, выбегла на вуліцу і паведаміла аб здарэнні супрацоўнікам Дзяржаўтаінспекцыі, якія паблізу знаходзіліся на дзяжурстве. Яны і затрымалі нахабнага злодзея, якая прыехала ў райцэнтр з Шумілінскага раёна. Яе затрымалі ўжо на суседняй вуліцы, украдзеныя грошы не паспела патраціць. Неўзабаве было ўстаноўлена, што нахабны 43-гадовы гастралёр у мінулым ужо мела непрыемнасці з законам, сядзела ў турме таксама за крадзяжы. Верагодна, на волі ёй болей заставацца не спадабалася, бо за кратамі цяплей і рэгулярна кормяць. Аднак такія паводзіны ўдвайне непрыемныя, бо гэта – не толькі злачынства, але і вялікі грэх, здзейснены у Боскім храме. Цяпер неўзабаве гэту гучную крымінальную справу разгледзіць суд. Па галоўцы мярзотніцу ніхто не пагладзіць, бо следчыя высвятляюць усе абставіны здарэння па суроваму артыкулу Крымінальнага кодэкса "абрабаванне". У лепшым выпадку злодзею з храма пагражае да 5 гадоў абмежавання волі, але, хутчэй усяго, яна зноў адправіцца на нары на тэрмін ад 3 да 8 гадоў, бо пераўтварылася ў рэцыдывістку.

## Пастаўскі раён

# Пратараніў ... магазін і скрыўся

■ Чэслаў Якубовіч.

**Не толькі крыміна-генная абстаноў–ка ў заходніх рэгёнах лепшая, чым на ўсходзе вобласці, але і на дарогах там больш спакайней.**

Вось і ў Пастаўскім раёне на працягу пяці апошніх гадоў захоўваецца ўстойлівая тэндэнцыя зніжэння аварыйнасці, хоць і тут кіроўцаў-парушальнікаў хапае. У адзін з выхадных дзён у дзве гадзіны ночы спрацавала трывожная кнопка аб пранікненні ў магазін "Дзевятачка", размешчаны ў цэнтральнай частцы горада. Як неўзабаве высветлілася, у гэту гандлёвую кропку на развілцы двух дарог на хуткасці ўляцеў невядомы вадзіцель, які, верагодна, быў на падпітку, альбо не справіўся з кіраваннем на слізкім асфальце. Ён адразу зразумеў, што натварыў і паспяшыў скрыцца з месца ДТЗ. Пошук вінаўніка гэтага здарэння па гарачых слядах не даў вынікаў, і яго прадоўжыць міліцыя шукаць. Дарэчы, перад гэтым восенню на дарозе паблізу ваеннага пагранічнага шпіталя ў цемры яшчэ адзін вадзіцель збіў жанчынувеласіпедыстку і таксама пакінуў месца аварыі, не аказаў пацярпелай патрэбнай дапамогі. Праз некалькі дзён актыўных пошукаў міліцыя знайшла злачынцу. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа і за бесчалавечны ўчынак гэтага кіроўцу будуць судзіць. З пачатку года сёлета на Пастаўшчыне было зафіксавана толькі 9 розных ДТЗ, у якіх трое чалавек загінулі і 6 атрымалі раненні. Таксама на мясцовых дарогах супрацоўнікі ДАІ затрымалі за рулём на падпітку 128 вадзіцеляў. З іх 8 гора-кіроўцаў учынілі гэта паўторна на працягу года, за што па новых правілах яны пазбавяцца сваіх аўтамабіляў па рашэнню суда.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 24.12.15 | | | | Пятніца 25.12.15 | | | | Субота 26.12.15 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +5 | +5 | +3 | +1 | +1 | +4 | +3 | +3 | +4 | +4 | +2 |
| Ціск | 747 | 748 | 754 | 756 | 755 | 751 | 750 | 750 | 749 | 748 | 751 | 751 |
| Вецер м/сек | 7 З | 7 З | 7 З | 3 З | 3 Ю | 5 Ю-З | 6 Ю-З | 4 З | 6 З | 6 З | 5 З | 3 С |
| Вільготнасць | 87 | 83 | 81 | 90 | 93 | 95 | 96 | 91 | 87 | 88 | 86 | 94 |

| | Нядзеля 27.12.15 | | | | Пан. 28.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -2 | +4 | +4 | -3 | -5 | -3 |
| Ціск | 751 | 747 | 742 | 743 | 749 | 757 | 763 |
| Вецер м/сек | 6 С-В | 7 Ю-В | 6 З | 5 З | 10 С-В | 4 С-В | 2 С-В |
| Вільготнасць | 86 | 100 | 99 | 93 | 86 | 82 | 77 |

# Аб самым надзёным

## Дзяржава вырашыла зрабіць выгаднымі для беларусаў толькі працяглыя безадзыўныя дэпазіты



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Такім чынам, цяпер беларусы, як і іншыя жыхары кантынента, будуць узгадняць з банкамі магчымасці і ўмовы датэрміновага вяртання сваіх грошай да заканчэння тэрміну захоўвання.**

Што б ні гаварылася публічна апошнім часам аб тым, што ў Беларусі не будзе ніякіх рэформ і рэзкіх зрухаў у эканоміцы, але наспеўшыя патрэбныя пераўтварэнні ў нас усё ж ідуць. Ды і ўвесь свет пачаў імкліва змяняцца пасля нядаўніх жахлівых тэрарыстычных атак ісламістаў у Парыжы, якія перад гэтым узарвалі самаробнай бомбай расійскі авіялайнер А321. На шчасце, прамой пагрозы вырадкі-баевікі так званай ІГІЛ нашай краіне не прадстаўляюць, але беларусы, як еўрапейская нацыя, павінна яшчэ болей паклапаціцца аб сваёй бяспецы, праўляць патрэбную пільнасць, дбаць, каб паўсюдна панавалі адказнасць, парадак і талерантнасць ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі.

Пры гэтым мы павінны памятаць, што ад рук фанатычных ісламістаў ужо пачалі гінуць і нашы суайчыннікі, альбо родныя тых беларусаў, якія пражываюць у дзяржавах ЕС і Ізраілі. Тым часам у Мінску завяршыла сваю працу місія МВФ, перамовы там аб новай праграме супрацоўніцтва і крэдыце да 3 млрд. долараў былі інтэнсіўныя і быццам плённыя. У парламенце таксама правялі карэктыроўку закона аб падтрымцы малога і сярэдняга прадпрымальніцтва. Для большасці ж нашых суайчыннікаў самымі актуальнымі сталі ўведзеныя прэзідэнцкім Дэкрэтам №7 найперш змены ў парадак прыцягнення грашовых сродкаў у банкі, і ўведзены падаходны падатак на дэпазіты з непрацяглым тэрмінам дзеяння.

У адпаведнасці з гэтым нарматыўным дакументам, пэўныя змены ўнясуць у дзеючы Банкаўскі кодэкс. Праўда, тым укладчыкам, якія заключылі дамовы на банкаўскія ўклады да 12 лістапада 2015 года, няма чаму асабліва хвалявацца. Усе банкі на працягу 5 дзён будуць выконваць раней існаваўшыя ўмовы захоўвання грошай і за такі тэрмін па патрабаванню кліента вернуць іх людзям без залежнасці ад тэрміна дзеяння дагавору. У пэўных выпадках укладчыкі згубяць працэнты ад дэпазітаў, іншым разам – не. Аднак пры прадаўжэнні банкаўскага дагавора на новы тэрмін яго палажэнні будуць ужо перагледжаны згодна з новым парадкам.

Галоўнае, што цяпер у Беларусі ўсе банкаўскія тэрміновыя і ўмоўныя ўклады сталі падраздзяляцца на безадзыўныя і адзыўныя. Розніца паміж імі такая, што ў другім выпадку грошы ўкладчык можа забраць з безадзыўнага дэпазіту толькі са згоды банкаўскай установы. Гэта правіла, дарэчы, цалкам адпавядае існуючай міжнароднай практыцы. І на захадзе законы не абавязваюць банкі вяртаць грошы ўкладчыкам датэрмінова, а ў залежнасці ад фінансавых магчымасцяў канкрэтных банкаў.

Такім чынам, цяпер беларусы, як і іншыя жыхары кантынента, будуць узгадняць з банкамі магчымасці і ўмовы датэрміновага вяртання сваіх грошай да заканчэння тэрміну захоўвання. Пры пэўных умовах банк можа на гэта не пайсці. Яшчэ адно сур'ёзнае нованўвядзенне закране тых, хто раней жыў з банкаўскіх працэнтаў, займаўся аперацыямі з так званымі "хуткімі" дэпазітамі. Згодна змен у заканадаўстве, цяпер ад уплаты падатку на даходы, атрыманыя з налічаных працэнтаў на ўклады, будуць вызваліца толькі тыя, хто пакладзе сумы ў беларускіх рублях на тэрмін не меней 1 года.

На ўклады ў замежнай валюце адпаведны тэрмін ужо – не меней 2-х гадоў. Не прыйдзецца плаціць падаткі, калі вашы грошы захоўваюцца ў банках пад працэнтную стаўку, якая не перавышае стаўку па ўкладах да запатрабавання. Гэта норма пачне дзейнічаць з 1 красавіка 2016 года. Дарэчы, клопатаў з неабходнасцю афармлення дадатковых плацяжоў укладчыкам банкаў не прыйдзецца мець. Банкаўскія спецыялісты самі падлічаць патрэбныя сумы і самі пералічаць іх у дзяржаўны бюджэт.

Цяпер самае цікавае даведацца, як адрэагуе на прынятыя нованўвядзенні з банкаўскімі ўкладамі непасрэдна насельніцтва. Нават спецыялісты Нацбанка Беларусі дапускаюць, што магчымы нейкі адток людскіх грашовых дэпазітаў з банкаўскіх устаноў. Некаторая частка насельніцтва, магчыма, захоча канвертаваць свае зберажэнні ў замежную валюту. Аднак з іншага боку, у кожнага з нас ёсць права выбару і гэта – самае галоўнае. Тут кожны прыме сам рашэнне, зыходзячы з канкрэтнай жыццёвай сітуацыі. Праўда, і дагэтуль багаценькія беларусы аддавалі перавагу ўсё ж болей доларам і еўра, захоўвалі болей на дэпазітах сродкаў у замежнай валюце, чым у беларускіх рублях. Давер у людзей, безумоўна, да новых беларускіх грошай вырасце, калі ў бліжэйшым некалькі гадоў не будзе высокай інфляцыі, перастануць расці шпарка цэны.

Між тым, наша краіна напрыканцы года апынулася ў цікавым становішчы і можа атрымаць нават два буйныя замежныя крэдыты ад МВФ і ад Еўразійскага фонда стабілізацыі і развіцця на агульную суму да 6 млрд. долараў. Зразумела, такія сумы замежныя крэдыторы даюць нам не за прыгожыя вочкі, а за гатоўнасць выконваць узятыя на сябе абавязацельствы па выкананню ўзгодненых параметраў праграм пераўтварэнняў намечаных рэформ. А мы з вамі ў бліжэйшы час даведаемся яшчэ пра шэраг змен ад вызначэння лёсу праблемных прадпрыемстваў да рэфармавання існуючага рынку працы, падтрымкі сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва.

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка пацвердзіў, што 2016 год будзе жорскім на бюджэтныя абмежаванні. Еўразійскі фонд адклаў зноў выдзяленне стабілізацыйнага крэдыту для Беларусі. З пачатку года Беларусь нагандлявала з дзяржавамі ЕАЭС на мінус 4,9 млрд. USD, у тым ліку з Расіяй – на 5,4 млрд., сальда гандлю з ЕС станоўчае – 2,55 млрд. долараў. За рысай беднасці пражылі адыходзячы год 3,6 % беларускіх сем'яў. У лістападзе золатавалютныя рэзервы краіны скараціліся яшчэ на 82,7 млн. USD. Многія прадпрымальнікі збіраюцца масава спыніць гандаль на рынках з Новага года. Амаль увесь снежань у Беларусі зноў быў анамальна цёплым.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама ў звароце да нацыі паабяцаў знішчыць групоўку "Ісламская дзяржава" і іншыя арганізацыі тэрору, заклікаў да ўзмацнення кантролю за зброяй.

**Турцыя.** Прэм'ер-міністр А. Давутаглу прыгразіў, што ў выпадку неабходнасці супраць Расіі могуць быць уведзены санкцыі ў адказ, але туркі гатовы да перамоў з рускімі.

**Бельгія.** ЕС пазітыўна ацаніў намаганні Украіны і Грузіі да атрымання ў сярэдзіне 2016 года права для іх грамадзян на бязвізавы ўезд, адменяць візы і для грамадзян Турцыі.

**Англія.** Наземнае наступленне войск рэжыма Б. Асада ў Сірыі, як паведаміла газета Guardian, пры падтрымцы з паветра расійскай авіяцыі захлынулася ў вялікай крыві.

**Расія.** Пасля 10 гадоў распрацоўкі новы рускі ваенны спадарожнік "Канопус-СТ" для выяўлення падлодак не змог аддзяліцца ад разгоннага блоку і згарэў у атмасферы.

**Арменія.** Па ўсёй лініі супрацьстаяння ў Нагорным Карабаху зноў адбыліся ваенныя сутыкненні армянскіх ваенных і сіл спецназа Азербайджана, былі і загінулыя з двух бакоў.

**Венесуэла.** Сакрушальнае паражэнне пацярпела правячая партыя чавістаў М. Мадуры на выбарах у Нацыянальную асамблею, апазіцыя перамагла на фоне эканамічнага крызіса.

**Казахстан.** Ва ўрадзе абмеркавалі праект бюджэта краіны, зыходзячы з магчымага далейшага зніжэння цэн на нафту да 30 і нават 20 долараў за барэль.

**Расія.** Крэмль і Пуцін не ведаюць, як заявіў палітолаг, супрацоўнік НДУ ВШЭ М. Урноў, як вырашыць праблемы РФ у рамках існуючай сістэмы, а давер да дзяржавы падае.

**Эстонія.** На фоне глыбокага крызіса, як заявіў расійскі журналіст-эмігрант А. Троіцкі, мільёны расіян пазбавілі ўлады не толькі месца пад сонцам, але і больш 600 відаў лекаў.

**Літва.** На базу літоўскай арміі ў Мумайчай прыбыла першая партыя з 50 амерыканскіх танкаў "Abrams" і баявых машын пяхоты, усяго тут размесцяць 200 адзінак баявой тэхнікі.

**Латвія.** З-за ўнутраных спрэчак і інтрыг у правячай кааліцыі падаў у адстаўку ўрад на чале з прэм'ер-міністрам Лаймдотай Страўюмай, але паспеў прыняць дзяржбюджэт.

**Францыя.** Французскі вучоны Паскаль Катэ заявіў, што знайшоў пад знакамітай карцінай Леанарда Да Вінчы "Мона Ліза" яшчэ адзін партрэт, які глядзіць у іншы бок.

**Арменія.** Жыхары краіны на канстытуцыйным рэферэндуме пры яўцы 50,5 % выказаліся за адмену формы праўлення ў выглядзе прэзідэнцкай рэспублікі, улада будзе ў парламента

**Швецыя.** Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч прызналася, што не думала, на колькі зараз хворае рускае грамадства, многія рускія Беларусь не ўспрымаюць сур'ёзна, там страшна.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагенцтвств і інтэрнетрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Фаніпаль.** На беларуска-швейцарскім заводзе ЗАТ "Стадлер" па выпуску электрычак з-за адсутнасці заказаў пачалі зніжаць зарплату работнікам і скарачаць персанал.

**Мінск.** Фінансавы аналітык В. Іосуб заявіў, што рашэнне аб рэформах у Беларусі ўжо прынята, хоць па тэлевізару будуць гаварыць адваротнае, ёсць кансэнсус урада і банкаў.

**Магілёў.** Эканамічны суд вобласці распачаў справу аб прызнанні банкрутам беларуска-аўстрыйскага СЗАТ "Шклозавод "Елізава", яго даўгі перавысілі 0,5 трыльёна рублёў.

**Мінск.** Буйнейшы айчынны вытворца жаночай бялізны холдынг "Мілавіца" скараціў чвэрць персаналу (720 швачак) з-за падзення аб'ёмаў прадаж прадукцыі на 40,5%.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Л. Злотнікаў пацвердзіў, што незадавальненне Беларуссю з боку Пуціна ёсць, бо праз нас у РФ пастаўляюць кантрабандныя тавары, садавіну і гародніну.

**Гродна.** Курдскія СМІ паведамілі аб гібелі ў баі за "Ісламскую дзяржаву" 33-гадовага былога гродзенца Д. Васільева, ён меў від на жыхарства ў Аўстрыі, дзе пражыў 10 гадоў.

**Мінск.** Можна не сумнявацца, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, што народ горача падтрымае павышэнне пенсійнага ўзросту, па ТБ пакажуць па шматлікім яго "просьбам".

**Мазыр.** З буйнога магазіна ў цэнтры горада ў другі раз на працягу месяца злачынцы выкралі сейф з больш 30 мільёнамі рублёў выручкі, спачатку там скралі 40 мільёнаў рублёў.

**Мінск.** За ўчынкі, несумяшчальныя з дзяржслужбай, вызвалілі ад займаемых пасад першага намесніка начальніка Беларускай чыгункі і яшчэ двух намеснікаў міністраў.

**Гомель.** Пры вяртанні дамоў з дзяжурства 64-гадовага вартаўніка ў лесапалаце ля вёскі Цэгельня статак бадзяжных сабак загрыз да смерці мясцовага жыхара-пенсіянера.

**Мінск.** Беспрацоўе ў нас, як папярэдзіў глава прафсаюза РЭП Г. Фядыніч, будзе расці сямімільнымі крокамі, каля тысячы прадпрыемстваў нерэнтабельныя, фактычна банкруты.

**Смілавічы.** Паблізу гарадскога парка невядомы хуліган пашкодзіў дарожны знак, 6 драўляных і 10 бетонных агародж, асвятляльны слуп, 9 лавак, па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

**Мінск.** На штогадовых чытаннях да Раства Хрыстовага праваслаўны пратаірэй С. Гардун раскрытыкаваў каталіцызм за нібыта скажэнне сімвала веры і хваліў Расійскую імперыю.

**Астрашыцкі Гарадок.** Малодшы сын А. Лукашэнкі Коля зноў прапусціў шмат урокаў у мясцовай СШ, бо паляцеў са сваім бацькам у В'етнам, а потым – у Туркменістан.

**Салігорск.** Услед за расійскімі клубамі багатыя мясцовы ФК "Шахцёр" адмовіўся ад двух перадсезонных збораў у Турцыі з-за нібыта неспакойнага становішча ў рэгіёне.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагенцтвств і інтэрнетрэсурсаў).*

# Падаткі для ўладальнікаў аграсядзібаў і рамеснікаў вырашылі не павышаць



■ FINANCE.TUT.BY

**Уладальнікам аграсядзібаў і рамеснікам не будуць павялічваць у 2016 годзе памеры збораў у бюджэт, паведаміў міністр па падатках і зборах Сяргей Налівайка ў парламенце. Яны па-ранейшаму будуць уносіць у бюджэт па адной базавай велічыні ў год.**

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прынялі ў другім чытанні законапраект «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях прадпрымальніцкай дзейнасці і падаткаабкладання». Адзін з пунктаў, які значыўся ў дакуменце, датычыўся змяненняў падаткаабкладання ў сферы агратурызму і рамеснай дзейнасці.

Так, для ўладальнікаў сядзібаў падаходны падатак прапаноўвалася павялічыць з адной да 12 базавых велічынь у год, а для рамеснікаў – з адной да чатырох у год. Аднак ініцыятыву ўрада не падтрымалі. «Гэтыя прапановы падтрыманы не былі. Заканадаўства засталося без зменаў», - пацвердзіла БЕЛТА старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў па бюджэце і фінансах Людміла Дабрыніна.

Нагадаем, што льготныя ўмовы падаткаабкладання для ўладальнікаў аграсядзібаў і рамеснікаў, як меркавалася, павінны дзейнічаць да 2021 года.

У Міністэрстве спорту раней заяўлялі, што лічаць падаходны падатак у адну базавую велічыню непрымальным, а ў МПЗ казалі, што памер стаўкі збору для ўладальнікаў аграсядзібаў у перспектыве трэба ўвязаць з памерам іх даходаў.

Самі ж прадстаўнікі агратурызму неадназначна ўспрынялі ініцыятыву ў 12 разоў павялічыць для іх падаходны падатак: адны мелі намер працягнуць працаваць, іншыя падумвалі згортваць бізнас. «Наша пазіцыя - не мяняць правілы гульні да 2021 года, як гэта і было абяцана, – заяўляла кіраўнік грамадскага аб'яднання «Адпачынак у вёсцы», якое займаецца развіццём у Беларусі аграэкатурызму, Валерыя Кліцунова. – Пасля гэтага тэрміну можна ўносіць змены. Да прыкладу, падатак можа залежаць ад абароту альбо ад колькасці гадоў у бізнасе. Хто буйней, можа рэгістравацца як юрыдычная асоба».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Звыш 2 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў са студзеня могуць спыніць сваю працу з-за адсутнасці дакументаў аб якасці тавараў лёгкай прамысловасці.

**Руба**. У садовым таварыстве ля вёскі Цяцеркі адбыўся сход абураных дачнікаў, незадаволеных малымі памерамі кампенсацыі за знесеныя дамы пры ўзвядзенні ГЭС.

**Орша.** Мадэрнізаваны Арэхаўскі льнозавод перайшоў на графік працы ў 3 змены, колькасць працуючых на ім напярэдадні 45-годдзя завода павялічылі да 160 чалавек.

**Віцебск.** У пачатку снежня 142 прадпрыемствы і гаспадаркі вобласці сталі даўжнікамі па зарплаце, яшчэ горш сітуацыя з даўгамі ў Мінскай вобласці (173 арганізацыі).

**Наваполацк.** На працягу двух дзён у горадзе праходзіў III Міжнародны форум-нарада птушкаводаў з удзелам спецыялістаў галіны з 9 краін свету, у вобласці пагалоўе 6,8 мільёна.

**Гарадок.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць былых дырэктара і галоўнага бухгалтара райаграснаба за злоўжыванні пры продажы жылля ў растэрміноўку.

**Віцебск.** З-за недахопу абаротных сродкаў тэлезавод "Віцязь" практычна спыніў выпуск тэлевізараў, у кастрычніку зусім іх не выпускаў і мінскі тэлезавод "Гарызонт".

**Паставы.** Першы малебен правёў архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій на месцы будоўлі царквы ля возера Балдук вакол нацпарка "Нарачанскі" і каталіцкай вёскі.

**Лёзна.** На воінскіх могілках у аграгарадку Бабінавічы ўрачыста перазахавалі астанкі знойдзеных яшчэ 22 чырвонармейцаў, загінуўшых у гады II Сусветнай вайны.

**Віцебск.** Супрацоўнікі аддзела па грамадзянству і міграцыі Першамайскага АУС у судзе прызналі сваю памылку пры выдачы пашпарту і выплацяць сям'і 13 млн. рублёў.

**Орша.** У выхадныя затрымалі былога гендырэктара мясцовага МКК С. Качанава, падставай для арышту сталі нібыта махінацыі з мясам, як на мясакамбінаце ў Гомелі.

**Глыбокае.** Не толькі бібліятэкары, але і ветэраны працы, самыя актыўныя чытачы сталі галоўнымі героямі вечарыны ў ГДК з нагоды 70-годдзя цэнтральнай раённай бібліятэкі.

**Браслаў.** Пасля працяглага перапынку ў раённым цэнтры зноў прайшлі "Браслаўскія чытанні", на навукова-практычнай канферэнцыі праслухалі 37 дакладаў і паведамленняў.

**Наваполацк.** Супрацоўнікі прадпрымальніка-жанчыны распачалі крымінальную справу за ўхіленне 2,5 гады ад выплат падаткаў і збораў пры гандлі купленым у Расіі абуткам.

**Віцебск.** З мэтай пашырэння супрацоўніцтва і арганізацыі буйной выставы карцін у горадзе пабывала дырэктар музея М. Шагала з Ніццы (Францыя) Ані Допфер з калегамі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагенцтвств і інтэрнетрэсурсаў).*

# Беларускія «іпэшнікі» масава адмаўляюцца ад гандлю на рынках

**Індывідуальныя прадпрымальнікі Беларусі масава нясуць заявы ў адміністрацыі гандлёвых цэнтраў і рынкаў аб прыпыненні дзейнасці альбо зусім аб спыненні аднасін. Пра гэта паведамляе РГА «Перспектыва», спасылаючыся на інфармацыю, якая паступае да іх.**

Ёсць таксама звесткі аб тым, што адміністрацыя сталічнага ГЦ «Ждановічы» збірае падобныя заявы і перадае іх у Цэнтральны райвыканкам Мінска, на тэрыторыі якога размешчаны гандлёвы цэнтр.

Як паведамлялася раней, 14 снежня на форуме прадпрымальнікаў у Мінску многія ІП заявілі аб намеры вымушана прыпыніць сваю працу з 1 студзеня 2016 года ў сувязі з аб'ектыўнай немагчымасцю выканання патрабаванняў указа Прэзідэнта №222 і тэхнічнага рэгламенту.

Згодна з указам № 222 аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці з 1 студзеня 2016 года ІП павінны будуць рэалізоўваць прадукцыю легпрама, увезеную з краін Мытнага саюза, толькі з суправаджальнымі дакументамі. Аднак расійскія пастаўшчыкі, у якіх беларускія ІП у асноўным закупляюць тавар, у большасці выпадкаў адмаўляюцца выдаваць дакументы, якія пацвярджаюць паходжанне прадукцыі, альбо выдаюць фіктыўныя даведкі. Гэта становіцца падставай для штрафаў і канфіскацыі маёмасці ў беларускіх ІП. Іх неаднаразовыя просьбы да ўладаў адмяніць указ №222 так і не былі пачутыя.

Удзельнікі форуму прадпрымальнікаў прынялі антыкрызісны план па вырашэнні праблем малога бізнасу. Яны, у прыватнасці, прапануюць стварыць пры Адміністрацыі Прэзідэнта працоўную групу з ліку ІП, занятых у рознічным гандлі, для выпрацоўкі аптымальнага рашэння па ўрэгуляванні дзейнасці прадпрымальнікаў з улікам створанай уладамі сітуацыі.

*БелаПАН.*




**Наш каментар**. Сусветныя кошты на нафту абрынуліся. Аднак, кіраўнік краіны дае заданне геолагам шукаць нафту там, дзе яе ніколі не шукалі! Мо, свідравальныя вышкі, некалі, з'явяцца і ў Глыбокім ... пасярод Беразвецкага возера.

Грамадства задаецца пытаннем – а ці трэба шукаць новыя радовішчы нафты на Беларусі, калі яна цяпер у свеце каштуе "капейкі", а яе разведка і здабыча на Беларусі будзе неверагодна стратнай? Лепш беларускую нафту не чапаць і пакінуць нашым нашчадкам – унукам і праўнукам!

# Лукашэнка даручыў вывучыць перспектыўныя рэгіёны краіны на прадмет новых радовішчаў нафты

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сёння на нарадзе аб стане і перспектывах развіцця сыравіннай базы Беларусі даручыў у поўным аб'ёме вывучыць перспектыўныя рэгіёны краіны на прадмет выяўлення новых радовішчаў нафты, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

Гаворка ідзе пра **Аршанскую** (Віцебская вобласць) і Падляска-Брэсцкую ўпадзінах (Брэсцкая і Гродзенская вобласці). Гэтыя тэрыторыі пакуль недастаткова вывучаны. Да іх цяпер павінна быць прыкавана ўвага спецыялістаў.

На нарадзе таксама абмяркоўвалася рэалізацыя праектаў па павелічэнні выкарыстання торфу на цэментавых заводах замест імпартуемага каменнага вугля. Чакаецца, што на працягу 2016-2017 гадоў на прадпрыемствах будзе выкарыстоўвацца каля 420 тыс. т тарфяных брыкетаў.

Гадавая эканомія, па падліках урада, складзе $15-20 млн.

Кіраўніку дзяржавы было дакладзена аб праграме вывучэння нетраў і развіцця мінеральна-сыравіннай базы Беларусі на 2016-2020 гады. Дакумент прадугледжвае пошук радовішчаў ужо разведаных і новых відаў карысных выкапняў. Запланаваны таксама рэгіянальныя працы, якія будуць праводзіцца на малавывучаных тэрыторыях, вялікіх глыбінях.

На дадзены момант у Беларусі выяўлена 82 радовішчы нафты, 75 перададзены на баланс ПА "Беларуснафта" для распрацоўкі, на сямі радовішчах вядуцца працы ў розных стадыях выведкі і падрыхтоўкі да засваення. Усе выяўленыя радовішчы нафты ставяцца да Прыпяцкага прагіну (Гомельская і Магілёўская вобласці). Штогод Беларусь здабывае 1,64 млн. т нафты. У краіне маецца больш 9 тыс. тарфяных радовішчаў з геалагічнымі запасамі каля 4 млрд. т, штогод выpабляецца 1 млн. 240 тыс. т торфабрыкету. Усяго ў нетрах Беларусі выяўлена больш 10 тыс. радовішчаў розных выглядаў карысных выкапняў.

*БелТА.*



Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта:

# Просім адгукнуцца сведкаў ДТЗ

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа №15123080237, узбуджаная 24.11.2015 па факце ДТЗ, у выніку якога загінула жанчына.**

На падставе выкладзенага вышэй, прашу Вас аказаць дапамогу ва ўсталяванні відавочцаў дадзенага злачынства

**Інфармацыя пра злачынства:**

Дата здарэння – каля 06 гадзін 40 хвілін 24.11.2015

Час здарэння – гл. вышэй;

Месца здарэння – вул.Савецкая, г.Глыбокае, ля дома № 147.

**Наступствы злачынства:**

Збіты пешаход на праезнай частцы.

Відавочцаў здарэння прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул.Леніна, д.95, каб. №7 ці паведаміць па тэл.: 5-04-09.

*А.П. Казачонак,*

*следчы СА Глыбоцкага РАСК, ст. лейтэнант юстыцыі.*

# У Эстоніі мінімалку павысяць да 430 еўра

**Да 2017 года мінімальны заробак плануецца павысіць да 470 еўра, піша err.ee.**

Урад краіны сёння мае намер зацвердзіць пастанову, згодна з якой мінімальны заробак у 2016 годзе будзе павялічаны з 390 да 430 еўра ў месяц.

Прафсаюзы й працадаўцы доўга не маглі дамовіцца па гэтым пытанні, і вырашальным у выніку стала слова дзяржаўнага прымірцыеля.

Згодна з праектам пастановы, у 2016 годзе мінімальная пагадзінная аплата працы складзе 2,54 еўра, а месячны мінімальны аклад пры працы на поўную стаўку – 430 еўра.

Мяркуецца, што ў 2017 годзе годзе мінімальная зарплата вырасце да 470 еўра ў месяц.

*err.ee*

# У Браслаўскім раёне выкралі 2,5 кіламетра правадоў лініі электраперадачы

**2,5 кіламетра алюмініевага провада коштам 14,2 мільёнаў рублёў выкрадзена ў Браслаўскім раёне з апор ЛЭП.**

Зламыснікі зрэзалі правады з некалькіх апор нядзейных ліній электраперадачы побач з трыма вёскамі Браслаўскага раёна. Па факце гэтага крадзяжу ўзбуджана крымінальная справа, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

*ННВ.*

# Сярэдні заробак у Літве у два разы перавышае сярэдні заробак у Беларусі

**Дэпартамент статыстыкі Літвы ў трэцім квартале гэтага года зафіксаваў рост сярэдняга заробку прыкладна на 3%, а за год – больш за 5%.**

Сярэдні месячны заробак у Літве ў трэцім квартале 2015 складаў 735,1 еўра (14,1 млн. беларускіх рублёў), у дзяржаўным сектары – 755,3 еўра, у прыватным – 724,7 еўра без уліку выплаты падаткаў, паведамляе Дэпартамент статыстыкі Літвы.

У параўнанні з другім кварталам 2015 года, сярэдні заробак вырас на 3% да ўплаты падаткаў: у дзяржаўным сектары – 2,1%, у прыватным – 3,5%.

Сярэдні заробак пасля выплаты падаткаў склаў 569,0 еўра (па сённяшнім курсе – 10,9 млн. беларускіх), і, у параўнанні з другім кварталам, узрос на 2,7%: у дзяржаўным сектары – 583,6 еўра (11,2 млн. беларускіх ), або на 1,9% больш, у прыватным – 561,5 еўра, або на 3,2% больш.

Па звестках Дэпартамента статыстыкі, рост зарплаты ў трэцім квартале 2015 па параўнанні з другім кварталам, абумовіла большая колькасць працоўных гадзін, сезоннасць, павышэнне з 1 ліпеня заробку работнікам культуры і мастацтва, і павышэнне мінімальнага заробку (да 325 еўра), а таксама іншыя прычыны.

Эканаміст банка Nordea Жыгімантас Маўрыцас адразу пасля абвяшчэння вынікаў у сваім профілі ў сацыяльнай сетцы напісаў, што гэта яшчэ не канец.

«Вагі схіліліся ў бок працуючых, і, калі ўлічваць дэмаграфічныя выклікі, наўрад ці ў бліжэйшы час схіляцца назад у бок працадаўцаў», – адзначыў ён.

# Амаль 60% беларускіх арганізацый – нерэнтабельныя або нізкаэфектыўныя

**Каля 60% беларускіх арганізацый у студзені-кастрычніку гэтага года былі нерэнтабельнымі або нізкаэфектыўнымі – такія звесткі афіцыйнай статыстыкі. Па выніках гаспадарчай дзейнасці за 10 месяцаў года нерэнтабельнымі аказаліся 1.663 арганізацыі. Нізкі ўзровень рэнтабельнасці (да 5%) зафіксаваны ў 2.924 прадпрыемстваў.**

Паколькі звесткі статыстыкі ўлічваюць фінансавыя паказчыкі дзейнасці 7.877 арганізацый, атрымліваецца, што амаль 60% прадпрыемстваў у названы перыяд былі нерэнтабельнымі або адносіліся да ліку нізкаэфектыўных. У параўнанні з аналагічным леташнім перыядам сёлета колькасць нерэнтабельных прадпрыемстваў, якія ўлічваюцца афіцыйнай статыстыкай, павялічылася на 23%.

Меры па аздараўленні неэфектыўных прадпрыемстваў і іх магчымым банкруцтве абмяркоўваюцца сёння на ўзроўні ўрада. Яны з'яўляюцца часткай «дарожнай карты» па рэфармаванні эканомікі, якую ўлады Беларусі распрацавалі для атрымання крэдыту Міжнароднага валютнага фонду.

Перамовы ўрада з МВФ па ўмовах новай крэдытнай праграмы працягваюцца. Згодна з прагнозамі Нацбанка, яны завершацца ў першым квартале 2016 года.

*БелаПАН.*

# Хутка з'явіцца новы замежны беларускі тэлеканал?

■ **Уладзімір Скрабатун**

Што рабіць з расейскай агрэсіўнай прапагандысцкай хлуснёй, якая штохвіліны штогадзіны, не толькі гучыць з экранаў тэлевізараў, але, вобразна кажучы, вылазіць на паверхню, нават, з каструляў?

Беларускія журналісты, якіх цяпер шмат засталося без працы, прапанавалі стварыць новы беларускі антыпрапагандысцкі рускамоўны тэлеканал. Ідэя спадабалася Еўропе, і яна гатовая фінансаваць гэты тэлеканал. Пакуль вядуцца перамовы і арганізацыйныя пытанні, то не вядома -- адкуль будзе яго вяшчанне: з Польшчы, а можа і з Нямеччыны. Але, праўдападобна, мы хутка даведаемся і вынік.

# Каляднае віншаванне біскупа Алега Буткевіча



**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, паважаныя жыхары і госці нашай сінявокай Бацькаўшчыны!**

Хрысціянскі свет уваходзіць у святкаванне Вялікай Падзеі – Нараджэння Божага Сына. Падзея, якая перакрочвае межы часу, і мы не толькі ўспамінаем Нараджэнне Хрыста, мы зноў і зноў сустракаем з'яўленне Бога ў гэтым свеце. Такой ёсць наша вера. Вера ў Бога няспынна прысутнага сярод нас – сёння ўжо не ў выглядзе чалавека, але дзякуючы таму, што калісьці нарадзіўся як Чалавек, прагне заставацца з намі і ў нас. Мы – яго Святыня. Нашае цела – Ягоны Храм, а душа – Яго Уласнасць. Ці памятаем мы пра гэта сёння, калі столькі клопатаў паглынае наш час, а страх і непакой перапаўняюць душу? Ці можа разлічваць, стукаючыся сёння ў нашае сэрца праз сумленне, Божы Сын прынамсі на невялікі куток з халоднай падлогай, як у той Бэтлеемскай стайні? Ці для нас гэта неабыякава? І няхай не будзе нам перашкодай той факт, што нашае сэрца яшчэ не такое чыстае і ўтульнае. Хрыстос не прыйшоў, каб судзіць ці абвінавачваць нас. Ён прыйшоў ратаваць. Нам трэба толькі паверыць у Яго бязмежную Міласэрнасць, у Яго вялікую Любоў, дзякуючы якой яшчэ існуе гэты свет. Гэта вельмі важна.

Мы павінны сёння абудзіцца як хрысціяне, падобна да тых пастушкоў, што на заклік анёлаў пайшлі шукаць Нованароджанага Збаўцу ў Бэтлееме, каб наша вера магла ўратаваць гэты свет ад бяды. Бо толькі вера ў Бога, Які ёсць Любоў, можа супрацьстаяць фанатызму, у імя чаго і сёння яшчэ забіваюць людзей. Спыніць гэта можа толькі ўсёпрабачальная Божая Міласэрнасць, якая дзейнічае праз тых, хто ў Яе паверыў.

Няхай святло Бэтлеемскай зоркі пакажа нам шлях да тых каштоўнасцяў, якія падараваў нам Усемагутны праз Цуд у звычайнай палесцінскай стайні, а збудаванае на іх жыццё хай нясе радасць і супакой усім людзям добрай волі. Радасці, святла і супакою ад Нованароджанага Збаўцы! Са святам!

+ Алег Буткевіч, біскуп Віцебскі.

# «Паслізнуўся, упаў, прачнуўся – гіпс ...»

## Прафілактыка траўматызму

**Наступіла зіма, час галалёду з мінімальнай працягласцю светлавога дня, падчас піку вірусных інфекцый і абвастрэння розных хранічных захворванняў, якія саслабляюць агульны стан арганізма чалавека. Усё вышэйпералічанае часта прыводзіць да зніжэння ўвагі, ахоўных сіл арганізма і, наадварот, павышэнню траўматызму.**

■ **М. Філімонаў**, *урач-гігіеніст*



Па словах траўматолагаў, у асноўным наплыў хворых адзначаецца ў выходныя дні, калі народ адпачывае. Выпіўшы нават крыху, людзі губляюць каардынацыю і не могуць выстаяць на нагах, у выніку ламаюць сабе косці. Ад падзення ніхто не застрахаваны, таму лепш загадзя падумаць пра асцярожнасць.

**Абутак:** увесь абутак трэба не толькі аглядаць, але і выпрабоўваць. Перавагу трэба аддаваць абутку з рабрыстай падэшвай. Важна, каб абутак шчыльна прылягаў да нагі, быў зручным. У адваротным выпадку паходка становіцца нязграбнай, і шанцаў апынуцца на зямлі значна больш.

**Глядзі на ўсе вочы!** Нагу трэба ставіць такім чынам, каб быў максімальны кантакт з паверхняй, пазбягайце слізкіх месцаў. Не спяшайцеся! Выходзьце з дому, маючы запас часу. Прабежкі ў гэты час лепш пакінуць для спартзалы. Пераходзіць дарогу варта ў вызначаным месцы, каб не атрымаць аўтамабільную траўму.

**Каардынацыя:** прычынай падзення могуць стаць скоўваючае, мехаватае адзенне, вялікая колькасць торбаў і пакетаў, якія парушаюць каардынацыю рухаў. Таксама варта на час забыцца пра размовы на хаду па мабільным тэлефоне, каб не апынуцца на зямлі.

Вучымся падаць: шмат хто, паслізнуўшыся, пачынае энергічна размахваць рукамі, усяляк спрабуючы захаваць раўнавагу, хапацца за людзей, якія стаяць побач, цягнучы іх за сабой. Спрабуючы захаваць раўнавагу, чалавек усё роўна падае, але вельмі нязручна, на рукі, ногі, а часам галаву. Замест гэтага спецыялісты раяць наступнае: калі Вы паслізнуліся і не можаце захаваць раўнавагу – лепш упасці. Паспрабуйце прыдаць целу максімальна круглявую форму, прыбіраючы вострыя вуглы і прызямляючыся на ўсю паверхню. Гэта дапаможа пазбегнуць значных траўмаў, пры гэтым зімовыя курткі і паліто могуць паслужыць добрым ахоўным сродкам.

Умацоўвайце косці: дастатковае спажыванне кальцыя і вітаміна D дапамагае арганізму падтрымліваць масу косці. Таксама разумная фізічная нагрузка спрые ўмацаванню касцей і прадухіленню пераломаў. Улічыце, што шмат якія шкодныя звычкі, такія як празмернае ўжыванне алкаголю і курэнне, спрыяюць страце касцяной масы.

# Ёсць незарэгістраваная зброя – здай яе добраахвотна!

**У цяперашні час на тэрыторыі Глыбоцкага раёна супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС сумесна з зацікаўленымі ведамствамі праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на выяўленне і спыненне правапарушэнняў у галіне аховы і выкарыстання дзікіх жывёл у перыяд асенне-зімовага палявання.**

■ **С. Цырбан,**
*в.а. старэйшага інспектара па дазвалальнай рабоце аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*



Дадзеныя мерапрыемствы праводзяцца штогод. Як правіла, парушэнне Правілаў палявання і рыбалоўства, браканьерства звязаныя з выкарыстаннем зброі, якая з'яўляецца крыніцай павышанай небяспекі. За незаконныя дзеянні са зброяй заканадаўствам прадугледжана адміністрацыйная і крымінальная адказнасць. Але, нягледзячы на гэта, некаторыя грамадзяне ставячы ў першую чаргу пад пагрозу сябе, членаў сям'і, а таксама навакольных, захоўваюць па месцы жыхарства незарэгістраваную ва ўстаноўленым парадку паляўнічую, газавую і іншыя віды зброі.

Адміністрацыйная адказнасць за незаконныя дзеянні ў дачыненні да паляўнічай агнястрэльнай гладкаствольнай зброі ўстаноўлена артыкулам 23.71 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Крымінальная адказнасць за незаконныя дзеянні ў сферы абароту зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў прадугледжана артыкуламі 295-297 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, Санкцыяй артыкула 295 КК Рэспублікі Беларусь «Незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў» прадугледжана максімальнае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад чатырох да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі. Аднак, у заўвазе арт. 295 КК Рэспублікі Беларусь сказана, што асоба, якая добраахвотна здала прадметы, названыя ў артыкулах 295-297 Крымінальнага кодэкса, вызваляецца ад крымінальнай адказнасці за дзеянні, прадугледжаныя названымі артыкуламі, акрамя выпадкаў збыту.

Неабходную інфармацыю, звязаную з абаротам зброі, можна атрымаць па тэлефонах: 2-26-82, 2-14-23 у аддзеле аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.

***

**Аб фактах незаконных дзеянняў у сферы абароту зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў можна паведаміць у аператыўна-дзяжурную службу Глыбоцкага РАУС па тэлефонах 597-21-74 (мтс), 314-89-09 (велком), 2-27-02, 102.**

## МНС інфармуе
**на 22.12.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 822;
Гібель людзей – 93, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 33;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 592,3 млн. руб.

# Паляванне на лісіц



**Лісіца заўсёды лічылася каштоўным трафеем, за сваё незвычайна прыгожае футра.**

■ **Валерый Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Калі параўноўваць яе з іншымі драпежнікамі, то гэта не вельмі буйны звер. Дарослы звер можа важыць ад 6 да 10 кілаграмаў, даўжыня можа вар'іравацца ад 60 да 90 см, а вось хвост усяго толькі на 20 см карацей тулава. Афарбоўка лісы можа вар'іравацца ад агніста-рудой да светла-шэрай, гэта залежыць ад асяроддзя пражывання жывёлы. Лісіца – даволі прыгожы і распаўсюджаны паляўнічы звер. Лепш за ўсё здабываць звера пасля таго, як лісіца апранецца ў зімовае футра.

Гэты звер у Беларусі распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі. Колькасць лісіц з году ў год неаднолькавая. Гэта можа залежаць ад розных прычын. Прырытэтным фактарам, якія ўплываюць на іх колькасць, будзе колькасць мышападобных грызуноў – бо гэта асноўны корм лісіц. Знайсці лісіцу можна ў любым лесе нашай краіны. Гэты звер вядомы сваім хітрым норавам, спрытам, уменнем прыстасоўвацца да розных умоў жыцця. Узімку яна стойка пераносіць маразы, харчавацца можа тым, што трапіцца. Жыве ліса ў норах, якія робіць у ярах або на берагах рачулак. Участкі выбірае з пяшчаным грунтам і абавязкова, каб іх не залівалі дажджавыя і талыя воды. Нара, як правіла, мае некалькі ўваходных адтулін, якія злучаюцца з гнездавой камерай. Калі ліса карыстаецца нарой не адзін год, то яна ператварае нару ў збудаванне з некалькімі выхадамі або адноркамі.

У Беларусі на лісіцу можна паляваць цэлы год, як ружэйным, так і безружэйным спосабам. Паляванне можна праводзіць з засады, з прынаджваннем, з падыходу, загонам, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі. Але тут трэба зрабіць агаворку, з сабакамі можна паляваць толькі ў сезоны і ў тэрміны, дазволеныя для палявання на іншыя віды паляўнічых жывёл, а ў забаронены час і ў забароненых месцах можна толькі па паляўнічых пуцёўках на здабычу толькі гэтага віду.

Паляванне з манком пачынаецца ў зімовы час, калі ліса пачынае паляваць не толькі ў начны час, але і днём. Лісу прыцягвае піск мышы, выдаваць яго можна паляўнічаму самому, або выкарыстаць для гэтых мэтаў спецыяльна зробленыя манкі. Гук, які выдаецца паляўнічым, атрымліваецца лепшым, ім прасцей лісіцу падмануць. Падчас палявання з манком трэба памятаць, што ліса вельмі чулы і зоркі звер. Перш, чым пачаць выдаваць гукі, неабходна падабрацца да звера як мага бліжэй, і, галоўнае, не забываць пра маскіроўку і рух супраць ветру. Валодаючы выдатным нюхам, ліса можа ўчуць чалавека з вялікай адлегласці. Седзячы ў засадзе, неабходна быць асабліва асцярожным, не рухацца, і, па магчымасці, не выдаваць ніякіх гукаў.

Самым распаўсюджаным і выніковым відам палявання на лісіцу будзе паляванне з падыходу, праводзяць яго пераважна ў зімовы перыяд. Таксама шырока распаўсюджана паляванне з ганчакамі, загонным метадам і са сцяжкамі. Калі браць паляванне з падыходу, у зімовы перыяд, то павышаецца верагоднасць вызначэння слядоў і нор лісіц. Ветранае надвор'е заўсёды спрыяе паляванню, а ў паляванні з падыходу асабліва, бо гэта дае шанец блізкага падыходу да звера. Шанцы зрабіць удалы стрэл могуць павялічыцца, калі паляўнічы будзе апрануты ў адпаведную экіпіроўку – пажадана адзенне, якое не стварае шум і па колеры падобнае з навакольнай мясцовасцю. Тут не варта забываць пра паводзіны і староннія пахі. Такі від палявання мяркуе своечасовае выяўленне звязка.

Паляванне з акладам, або са сцяжкамі патрабуе ад паляўнічага вялікага вопыту і добрай арыентоўкі на мясцовасці. Аклад лепш рабіць пры глыбокім снезе, адразу ж знайшоўшы след лісіцы. Больш зручна гэта рабіць удваіх, тады захадзіць можна з двух бакоў. Сцяжкі павінны размяшчацца на ўзроўні вачэй лісы. Звер павінен добра бачыць сцяжкі, таму трэба выбіраць адкрытыя ўчасткі для іх размяшчэння. Развешваць сцяжкі трэба ў той час, калі лісіца не палюе на мышэй. Яе вельмі лёгка спудзіць, таму, заняўшы свой нумар, трэба стаіцца і не ствараць староннiх гукаў.

Паляванне на лісіцу мяркуе масу і іншых відаў палявання. Усе яны дапамагаюць развіваць у паляўнічым дысцыплінаванасць, майстэрства маскіроўкі, а таксама дазваляюць назіраць за жывёлай і вывучаць яе звычкі.

Лісіца мае важнае гаспадарчае значэнне для чалавека, бо яна скарачае пагалоўе грызуноў, ратуе ўраджаі збожжавых. Так, лісы наносяць страты хатняй гаспадарцы, але яны не супастаўныя з той карысцю, якую яны прыносяць, ловячы грызуноў. Але бываюць гады, калі колькасць лісіц узрастае ў два-тры разы ў параўнанні са звычайнай колькасцю. Узнікае небяспека ўзнікнення шаленства і іншых захворванняў. Для выключэння падобных выпадкаў узнікае неабходнасць рэгулявання колькасці дадзенага віду.

Для гэтых мэтаў на рашэнні карыстальніка паляўнічых угоддзяў могуць выдавацца паляўнічыя пуцёўкі паляўнічым для рэгулявання колькасці лісы, ваўка, янотападобнага сабакі на працягу года кругласутачна, але не пазней за 31 снежня, альбо арганізоўвацца з прызначэннем кіраўніка палявання.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 8905528, МТС 2494549, МТС 6456678.**

# Банкі рэзка знізяць стаўкі па ашчадных картках насельніцтва

**Камерцыйныя банкі да 1 лютага павінны будуць знізіць стаўкі па рублёвых ашчадных картках фізічных асоб з 15 да 3% гадавых. Паводле інфармацыі БелаПАН, на гэты крок банкі прымусяць адпаведныя рэкамендацыі Нацыянальнага банка.**

На мінулым тыдні банкі ўжо панізілі даходнасць па рублёвых ашчадкартках насельніцтва, знізіўшы стаўкі з 25 да 15% гадавых.

«Наступны крок па зніжэнні працэнтных ставак па ашчадных картках можна чакаць у сярэдзіне студзеня», – паведаміў БелаПАН эксперт у банкаўскіх колах.

Да 1 лютага стаўкі па рублёвых ашчадных картках, згодна з рэкамендацыямі Нацбанка, павінны складаць не больш за 3% гадавых, па валютных – 0,1% гадавых. Такім чынам, магчымасць атрымання даходу па ашчадных картках будзе практычна зведзеная да нуля.

Эксперты фінансавага рынку зазначаюць, што на фоне няўстойлівых інфляцыйна-дэвальвацыйных чаканняў ашчадныя карткі да апошняга часу з'яўляліся зручным сродкам назапашвання грошай.

«Ашчадная картка для насельніцтва была суперзручным прадуктам: з аднаго боку, стаўкі былі прыцягальныя для зберажэнняў, з іншага – існавала магчымасць у любы час зняць грошы з рахунку», – сказаў старшы аналітык форэкс-брокера «Альпары» Вадзім Іосуб.

На думку фінансавых аналітыкаў, рэкамендацыя Нацбанка хутка зніжаць стаўкі па ашчадкартках абумоўленая рэалізацыяй прынятага ў лістападзе дэкрэта №7, які магчымае ўкладчыкаў размяшчаць сродкі ў банках на працяглы тэрмін.

«Нацбанк раней прадэклараваў, што банкаўская сістэма зацікаўленая ў сродках насельніцтва, размешчаных на працяглы тэрмін. У гэтым сэнсе ашчадкарткі, сродкі з якіх кліенты маглі зняць у любы момант, не ўпісваліся ў новыя правілы гульні на дэпазітным рынку», – зазначыў старшы аналітык форэкс-брокера Forex Club Валерый Палхоўскі.

Згодна са звесткамі БелаПАН, улічваючы зніжэнне працэнтных ставак, што мае адбыцца, кол-цэнтры банкаў зараз тэлефануюць трымальнікам ашчадных картак і прапаноўваюць ім перавесці сродкі на тэрміновыя рублёвыя дэпазіты, у прыватнасці, анлайн-дэпазіты.

Паводле слоў банкіраў, насельніцтва схільнае пераводзіць зберажэнні на такія ўклады, стаўкі па якіх сёння знаходзяцца ў дыяпазоне ад 20 да 30% гадавых. «За лічаныя пасля 15 снежня дні некалькі мільярдаў рублёў ужо пераведзеныя ў анлайн-дэпазіты», – паведаміў БелаПАН супрацоўнік аднаго з камерцыйных банкаў.

Тым не менш, зазначаюць банкіры, у тэрміновыя дэпазіты ўсё ж існуюць недахопы ў параўнанні з ашчаднымі карткамі. Так, пры датэрміновым зняцці грашовых сродкаў укладчык, як правіла, губляе частку налічанага працэнтнага даходу.

*Дзмітрый Заяц,*
*БелаПАН*

# 3G-сувязь ад МТС хутка з'явіцца і ў сельскай мясцовасці

**Мабільны аператар «МТС» атрымаў рашэнне Дзяржаўнай камісіі па радыёчастотах аб выкарыстанні стандарта UMTS-900 і зможа разгарнуць новую 3G-сетку ў дыяпазоне 900 МГц, каб пакрыць устойлівай сувяззю 3G сельскую мясцовасць і цяжкадаступныя памяшканні.За выдзяленне названых частот мабільны аператар заплаціць дзяржаве 8,7 млн. еўра.**

Тэхналогія UMTS-900 дазваляе найбольш эфектыўна і хутка вырашаць пытанні пакрыцця сувяззю 3G сельскай мясцовасці, а таксама гарадоў са шчыльнай забудовай. Гэта магчыма за кошт нізкай частаты сігналу — яна забяспечвае большы радыус пакрыцця і лепшае пранікненне ўнутр будынкаў.

У «МТС» прызнаюць, што пытанне якаснага 3G у беларускай сельскай мясцовасці сёння стаіць асабліва востра, улічваючы, што попыт на хуткасны мабільны інтэрнэт расце не толькі ў гарадах, але і ў невялікіх населеных пунктах. З дапамогай стандарта UMTS-900 можна вырашыць гэтае пытанне і аператыўна давесці тэрыторыю пакрыцця 3G да ўзроўню 2G (на сёння гэта 98% тэрыторыі Беларусі), забяспечыўшы мабільным інтэрнэтам трэцяга пакалення ўсю краіну, у тым ліку месцы з невысокай шчыльнасцю насельніцтва.

Як тлумачаць спецыялісты, абсталяванне стандарта UMTS-900 мае значна большы радыус дзеяння ў параўнанні з базавымі станцыямі 3G, якія працуюць у дыяпазоне 2.100 МГц. Перавод існуючых базавых станцый на работу ў UMTS-900 дазваляе пакрываць упэўненай 3G-сувяззю не толькі вёскі і пасёлкі, але і аўтамабільныя трасы, хутары, сельскагаспадарчыя аб'екты і г.д. Акрамя гэтага, сігнал можа лепш распаўсюджвацца праз лясы і іншыя тыпы прыроднага ландшафту ў сувязі з меншым затуханнем.

Яшчэ адна сур'ёзная перавага UMTS-900 — эфектыўнае пранікненне сігналу ўнутр будынкаў, абумоўленае нізкай частатой. Гэта асабліва важна для гарадоў, дзе праходжанню радыёхваль перашкаджае шчыльная і высокая забудова. Пераналадка дзейных базавых станцый на UMTS-900 палепшае пакрыццё 3G не толькі на гарадскіх вуліцах, але і ва ўсіх памяшканнях, уключаючы цяжкадаступныя.

Сёння 3G-сетка «МТС», якая працуе ў дыяпазоне 2.100 МГц, ахоплівае 100% гарадскога насельніцтва Беларусі. На сваёй сетцы «МТС» выкарыстоўвае тэхналогію DC-HSDPA.

*mts.by*

